# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 47 (1697) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК, 20 ЛІСТАПАДА 1988 г. ЦАНА 20 зл.


*Фальклорная сцэнка — урыўкі з гарадоцкага вяселля. Перад вясковай хатай жанчыны віншуюць маладую пару. Пастаноўка Ніны Мушынскай.*

Запрашэнне выступіць у Торуні гарадоцкі калектыў прыняў з радасцю і ўдзячнасцю. Згадзіліся ўсе, хоць дарога была далёкая і нялёгкая, а ў калектыве пераважаюць людзі старэйшыя. Калектыў жа спявае ўжо больш трыццаці год, а ў ім значная група жанчын, якія гэты калектыў засноўвалі.

— Не едзь, бабуля, замучышся, — настойвала ўжо дарослая ўнучка Ніны Мушынскай. Але Ніна Мушынская, яшчэ поўная энергіі, хоць і здароўе ўжо не тое, нават раззлавалася:

— Што ты сабе думаеш: як да работы, дык не замучуся, а калі прыемнасць — дык не едзь?! Паеду.

Усе яны лічылі гэты выезд прыемнасцю. І ўсе паехалі. Спецыяльна падрыхтавалі (гэта ж для этнаграфічнага музея) уласнымі сіламі фальклорную сцэнку — урывак з тыповага гарадоцкага вяселля, аздобілі яе вясельнымі песнямі, прымаўкамі, падрыхтавалі лёгкую дэкарацыю, вясельныя прысмакі і з уласцівым ім энтузіязмам чакалі свайго выступлення.

Выехалі з Гарадка ранічкай каля гадзіны 4. Трошкі падрамалі на пачатак, а ўжо каля гадзіны 8 кіраўнік калектыву Сцяпан Копа расцягнуў акардэон:

— Давайце паўторым некалькі песень, — сказаў ён. — Не ўсё ў нас яшчэ выходзіць так, як хацелася б. — Заўсёды патрабавальны да сябе і іншых, ён і цяпер ужо клапаціўся пра чакаючы іх канцэрт.

А пачалося ўсё ад сустрэчы ў Вэнгажэве ў жніўні на Сувальскіх днях фальклору. Музычны інструктар ВДК у Сувалках Мірэк Наляскоўскі запрапанаваў свайму калегу з беластоцкага ВДК Сцяпану Копе прыехаць з беларускім калектывам. А Барбара Хлюдзінская з Вэнгажэва ўзяла наш калектыў у тыя дні пад сваю апеку.

Выступленне зводнага беластоцка-гарадоцкага хору захапіла гасцей і спеўнасцю, і аўтэнтычнай народнасцю, і мастацкасцю. Пачулі іх тады і прадстаўнікі Торуньскага этнаграфічнага музея, запрошаныя на дні фальклору, — Тэрэса Нэмэрэ, кіраўнік навукова-асветнага аддзела музея, і Эва Арлынская,




кіраўнік аддзела фальклору. І адразу ж тады запрасілі калектыў у Торунь, каб выступіў ён на адной з „Сустрэч з фальклорам“, якія Торуньскі музей арганізуе рэгулярна кожны месяц.

І вось цяпер гарадоцкі калектыў ехаў паказаць сябе ў Торуні, прадставіць там наш мясцовы гарадоцкі, гэта значыць, беларускі фальклор.

## У МУЗЕІ

Тут нас ужо чакалі. Першы дзень нашай пабыўкі ў Торуні гаспадары прызначылі на наша знаёмства з горадам і музеем.

Экскурсавод Дарота Куніцкая ўзяла калектыў пад сваю апеку на ўвесь дзень. Хадзілі па горадзе, слухалі пра гісторыю старога Торуня — горада з 1233 года, радзімы Мікалая Каперніка, помніка архітэктуры, дзе яшчэ па сённяшні дзень захаваўся найпрыгажэйшы ў Еўропе ансамбль будынкаў старой мяшчанскай архітэктуры. У цэнтры гэтага старога горада — незвычайна прыгожая гарадская ратуша з яшчэ каменнымі элементамі ўпрыгожання.

Торуньскі этнаграфічны музей змяшчаецца таксама ў помніку архітэктуры — у старым гарадскім арсенале. У гэтым будынку дзве выставачныя залы якраз у той час дэманстравалі часовыя выстаўкі — „Зямля, сэрцу блізкая“ — плён чарговага конкурсу народных умельцаў і „Рыбалоўства“. На першай, сярод карцін, разьбы і вырабаў рукадзелля з усіх канцоў паўночнай Польшчы, і нашы сакольскія дзвюхасноваваыя дываны, вялікая калекцыя, хоць з вельмі зблізанымі ўзорамі, дываноў з Янова, Васількова, Васілёўкі, Кумяўкі. А ў зале рыбалоўства, сярод надморскіх і азёрных рыбацкіх лодак і прылад — старыя наднарвянскія чаўны, выдаўбленыя з аднаго камля, або вялікія, двухзасекавыя — асобнае месца для рыбака і асабнае — для рыбы, знаёмыя многім з нас з дзяцінства кломлі, кашы на рыбу ды іншы абсталюнак рыбацкага промыслу.

На складах Торуньскага музея знаходзіцца багатая калекцыя прадметаў матэрыяльнай культуры і з нашага, беластоцкага рэгіёна. Сабраў яе, старанна апрацаваў і ганарыўся ёю былы доўгагадовы дырэктар этнаграфічнага музея ў Торуні

(Працяг на стар. 6)

# СТАВІМ СПРАВУ РАБРОМ

У беларускай пачатковай школе № 3 у Бельску вучыцца 960 дзяцей. Кожнае чацвертае з іх — „крывое“, проста кажучы: яго фізічнае развіццё не праходзіць нармальна. А дзе ж, як яно мае развівацца фізічна правільна, калі школа не мае аніякай фізкультурнай залы, не мае спартыўнай пляцоўкі? Гэта ж абсалютна ненармальная сітуацыя!

Фізкультурная зала ўжо зараз пільна патрэбна пачатковай школе № 3 у Бельску!

І трэба сказаць адкрыта і цвёрда: ваяводскія ўлады мусяць прыняць гэтую справу да ведама і да хуткага вырашэння. Дырэктар школы гаворыць на гэтую тэму так: „Я не хачу, каб ваявода мне даў грошы, хачу, каб ён мне памог. Улада павінна падтрымаць наш грамадскі пачын. Калі мы хочам будаваць, а яны ад нас адварочваюцца, то што гэта? Многа іншых дамагаецца грошай, а мы пачалі і самі працуем, арганізуем шырокі круг людзей, якія бачаць нашу неадкладную патрэбу і хочуць нам памагаць“.

І вось аб гэтай вельмі ж шырокай падтрымцы ініцыятывы дырэкцыі, педагагічнага калектыву і бацькоўскага камітэта школы № 3. Ініцыятыва нарадзілася тры гады таму назад, пасля заканчэння пабудовы школы, правільней — яе разбудовы, якая таксама была праведзена з вялікім укладам грамадскай працы. І вось цяпер стаіць справа спартыўнай залы. Ініцыятыву падтрымліваюць ахвярныя людзі. Даўно выбраны камітэт пабудовы, у які ўключыліся бацькі, кіруючыя рознымі ўстановамі і прадпрыемствамі горада. Яны хочуць і могуць памагчы ў пабудове залы. Ужо ў маі 1985 г. пачаўся збор грошай на гэтую пабудову. Вырашана было ападаткавацца па тысячы злотых у год ад сям'і. Дзеці-школьнікі садзілі лес, збіралі макулатуру і ўсё ішло на рахунак залы. Настаўнікам школы № 3 і беларускага ліцэя кожны месяц адпісваецца на гэта па сто злотых ад заробкаў, а ад верасня яны добраахвотна самі павялічылі гэты „падатак“ да 200 зл. Звярнуліся да гарад-

(Працяг на стар. 7)

акорды песні „Бывайце здаровы“, на сцэну да калектыву кінуліся жанчыны са слязьмі на вачах і з падзякай за дастаўленую прыемнасць вярнуцца песнямі ў гады маладосці. Слёзы радасці, словы падзякі, абдымкі і пацалункі. Артысты таксама расчуліліся такім прыёмам. І яны не спадзяваліся такога апляўзу. Потым — абавязкова супольнае фатаграфаванне. На памяць аб незабыўнай сустрэчы, аб чароўным канцэрце.

Усё гэта — і гарачы прыём, і сардэчнасць арганізатараў да калектыву — „Гарадок“ прыняў з вялікай удзячнасцю як узнагароду за доўгія гады супольнай працы, за ўсё сваё сталае жыццё, аддадзенае адной супольнай справе: праслаўленню роднай песні, роднай культуры.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара



*Экскурсавод Торуньскага этнаграфічнага музея Дарота Куніцкая ўручае членам калектыву падарункі — торуньскія пернікі і камплекты каляровых паштовак.*

# СТАВІМ СПРАВУ РАБРОМ

(Працяг са стар. 1)

скога камітэта фонду дапамогі школе, які ў Бельску ўзначальвае Анна Тапалеўская. Там справу фізкультурнай залы патрактавалі як першарадную і накіравалі на гэта грошы. Камітэт звярнуўся да прадпрыемстваў і ўстаноў горада наконт грашовай падтрымкі. Многія адклікнуліся безадкладна, некаторыя па сто і дзвесце тысяч злотых уплацілі (пералік перадавых ахвярадаўцаў даем на канцы артыкула).

Не абыходзіцца аднак без абсурдных цяжкасцей. Дырэктар школы расказвае аб такім вось несамавітым правіле ў адносінах да такога вялікага пачыну, якім з'яўляецца ўсенародны фонд дапамогі школе. Менавіта: прадпрыемства можа даць грошы ў гэты фонд, але ад ахвяраванай сумы яно павінна заплаціць 60 працэнтаў падатку! Вазьмі тут будзь добры!

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, ані школьны камітэт пабудовы залы, ані дырэкцыя, ані бацькі і вучні не спынілі працы. І ўжо многа зроблена. Грамадскімі сіламі давялі цяпло і ваду на месца, дзе будзе стаяць зала. У правядзенні цяпла многа памагла ім Ваяводская ўправа ўнутраных спраў, якая перапраектавала і павялічыла катлоўню ў новапабудаваным гмаху міліцыі ў Бельску, адкуль цяпло пойдзе ў праектаваную залу. Электралінію таксама пачынам зрабілі. Самі вучні, пад наглядам спецыяліста, выкапалі раўчукі, праклалі кабель і ўсё як трэба панакрывалі. Раённае меліярацыйнае прадпрыемства зрабіла школе добры падарунак: пад будучай залай яны паклалі новую каналізацыю, якая абыходзіць яе бокам.

Калі палічыць выкананую ўжо працу, то будзе яе вартасці звыш 6 мільёнаў 700 тысяч злотых. На рахунку грамадскага камітэта фонду дапамогі школе маюць яны 12,5 млн. зл. Ёсць сігнал, што камітэт па справах моладзі і фізкультуры ў Варшаве дапаможа сваімі грашыма.

Будова залы пачалася. У верасні самі вучні пачалі капаць катлаван пад фундамент. „На фундамент грошы маем, — кажа дырэктар. — А далей? Будзем шукаць дапамогі і зразумення, падтрымкі, а таксама і грошай. Добра было б, каб нас хацелі ўвясці на 1989 г. і далейшыя гады ў план грамадскага развіцця ваяводства. Але не хочуць гэтага зрабіць, дык няхай хоць увядуць нас у план падтрымання грамадскага пачыну! Ваяводскі камітэт фонду дапамогі школе тады нам паможа.

Ёсць такое правіла, што калі грамадскім пачынам выпрацуецца 20 прац. кошту пабудовы, дык дзяржава павінна далей памагчы. Школа № 3 мае такі грамадскі ўклад, а дапамогі няма. Ані Кураторыя асветы і выхавання, ані Ваяводская ўправа не зацікаўлены, каб бацькі, вучні і ўсе прыяцелі школы № 3 у Бельску пабудавалі патрэбную ім і ўсяму гораду фізкультурную залу!..

Ці не варта ўладам прадумаць усё ад пачатку і не марнаваць такую каштоўную грамадскую ініцыятыву?!

**Вера Валкавыцкая**

А вось найбольшыя ахвяравальнікі на пабудову спартыўнай залы пры школе № 3 у Бельску (дадзеныя на дзень 22.X.1988 г.): Прадпрыемства абсталявання і транспарту водных меліярацый — 250 тыс.; Бельска-Падляшскае будаўнічае прадпрыемства — 200 тыс.; Прадпрыемства „Каро“ — 200 тыс.; Прадпрыемства камунальнай і жыллёвай гаспадаркі — 147 тыс.; Раённае меліярацыйнае прадпрыемства, Пасялковы камітэт № 5, Гмінная ўправа ў Бельску — па 100 тыс.; Акруговая малачарская спулдзельня — 80 тыс.; Энергетычны цэнтр — 70 тыс.; ПСС „Сполэм“ — 64.285 зл.; ПКС, Раён публічных дарог — па 60 тыс.; Раён пабудовы дарог і мастоў — 57 тыс.; Цэх рамеснікаў — 50 тыс.; Самакіраванне жыхароў вёскі Праневічы і НОМ — па 30 тыс.; РУСВ — 27 тыс.; Самакіраванне жыхароў вёскі Леўкі — 25 тыс.; ПКП — 23 тыс.; Цэнтраля насенная і Банк спажывецкай гаспадаркі — па 20 тыс.; ГС, СТВ, Ваяводскі саюз гмінных спулдзельняў, Станцыя гадоўлі жывёлы, „Водраль“, Ваяводскае прадпрыемства малочнага транспарту — па 10 тыс..

Падаем конта Грамадскага камітэта пабудовы спартыўнай залы Беларускай школы № 3 у Бельску, на які можна ўплачваць грошы: **NBP Bielsk Podlaski 5119-1629-132.**

Бобрай і па Аўгустоўскаму паазер'ю. Гэта быў надта адважны і баявіты люд.

У асобе Свідрыгайлы віцябляне бачылі свайго прававітага князя, Альгердавага дзедзіча. А Фёдара Вясну, які з'явіўся ў Віцебску, мабыць, з дружынай польскіх вояў ды іх паставіў гарнізонам у віцебскіх замках, насельніцтва ўспрыняло як чужынцаў-захопнікаў. Калі Свідрыгайлава армія акружыла Віцебск ды рушыла штурмаваць умацаванні, абараняўся, відаць, толькі верны Вясне гарнізон, а насельніцтва спрыяла атакуючым. Свідрыгайла хутка апанаваў Віцебск, затым заняў Оршу і іншыя ўмацаванні і неўзабаве ўся Віцебшчына апынулася ў яго руках. З каралеўскім намеснікам ён абышоўся жорстка: загадаў спіхнуць яго з крапаснай сцяны і пры ўпадку Вясна „зламаў шыю і памёр“, — паведамляе тая ж „Хроніка“.

Учынкі Свідрыгайлы не маглі не абурыць Ягайлу і каралеўскім гневам зараз жа пакарыстаўся... Вітаўт. Праўда, летапісы цвярдзяць у адно, што Ягайла „напісаў грамату брату сваяму (?), вялікаму князю (?) Вітаўту, каб помсціў ягоную крыўду“ („Віленскі летапіс“). Аднак ці такая грамата існавала, сёння цяжка сказаць. Пэўнае тое, што „Вітаўт, захапіўшы з сабою князя Скіргайлу і сабраўшы вялікае войска, пайшоў на горад Віцебск, на князя Свідрыгайлу“, — як паведамляе „Хроніка Быхаўца“. Але пад уладай Свідрыгайлы знаходзілася вялікая тэрыторыя і непасрэднага доступу да Віцебска, відаць, не было. Таму Вітаўт вымушаны быў атакаваць саюзныя віцебскаму князю землі. Першы ўдар прыйшоўся на Друцкае княства. Тамашнія князі не супраціўляліся, мабыць таму, што разам з Вітаўтам ішоў Скіргайла, іхні блізкі родзіч ды Альгердавіч. Яны выйшлі са свайго старажытнага горада і паддаліся Вітаўту ў паслушэнства. Затым Вітаўт са Скіргайлам акружылі Оршу, аднак „аршане зачыніліся ў горадзе і абараняліся два дні“, — чытаем у „Хроніцы Быхаўца“, але і яны паддаліся.

Хаця Вітаўтава войска выдатна падмацавалі другане, аршане і дружына смаленскага князя Юрыя, які дабравольна падпарадкаваўся Кейстутавічу, з ходу ўзяць Віцебск ім не ўдалося. Віцябляне пад умелым кіраўніцтвам свайго юнага князя стойка абараняліся. Аблога зацягнулася. „Вітаўт бесперапынна штурмам і стральбою атакаваў абодва замкі, але і Свідрыгайла з немцамі магутна і хітра абараняўся“, — сцвярджае „Хроніка літоўская і жамойцкая“. Наколькі заядлай была абарона віцяблян, найбольш яскрава сведчыць тое, што аграмаднай Вітаўтавай арміі толькі пасля чатырох тыдняў безупынных стральбы ды штурмаў удалося здабыць Ніжні замак. Тады ён, „укаціўшы гарматы ў мураваную царкву ў Ніжнім замку, разбіваў мур Верхняга замка“, — расказвае тая ж „Хроніка“.

Неабходна заўважыць, што гэтай царквой аказаўся славуты Благавешчанскі храм, старажытнейшая мураваная віцебская пабудова, якой ужо тады было больш за 250 год. Прафанавалася і руйнавалася выдатная скарбніца нашай культуры. Віцебская Благавешчанская царква славілася арыгінальнасцю архітэктуры, багаццем унутранага дэкору, каштоўнымі іконамі, літургічным начыннем, рукапіснымі багаслужэбнымі кнігамі. Пра фрэскавы роспіс, якім былі ўпрыгожаны сцены і столь храма, вядомая сучасная беларуская мастацтвазнавец В. Церашчатава піша: „аб высокім майстэрстве выканання сведчаць тонкасць колеравых спалучэнняў, яркасць і чысціня таноў, мяккасць колеравых пераходаў“. Тады, мабыць, у гэтай царкве ўжо стаяў саркафаг з астанкамі нядаўна памёршай вялікай княгіні Ульяны. Здабыўшы не ўшанавалі ні святасці храма, ні спакою памёршай. Нават той жа Скіргайла, які тут быў ахрышчаны і якога родная маці тут пажадала спачыць навечна. Прага ўлады заглушыла ўсе чалавечыя пачуцці...

Хаця Ніжні замак быў здабыты, аднак Верхні яшчэ доўга абараняўся. Толькі калі не стала харчоў і людзі пачалі паміраць з голаду ды адхіляцца ад свайго князя, Свідрыгайла паддаўся. Вітаўт загадаў яго акаваць і адправіў каралю Ягайлу ў Кракаў, „а сам у Віцебску рыцарства сваё паставіў“, — падае згаданая ўжо „Хроніка“. Такім чынам і Віцебская зямля апынулася пад Вітаўтавым панаваннем. Гэта быў яго чарговы важны крок у пабудове магутнай свае дзяржавы.

Калі Свідрыгайла апынуўся ў Кракаве і прадстаў перад абліччам караля, у Ягайлавым сэрцы нешта зварухнулася. Ён загадаў Вітаўту аддаць наймалодшаму Альгердавічу ў трыманне Бранск і Ноўгарад-Северскі з прыналежнымі да іх землямі, значыць, ранейшы Карыбутаў удзел. Такім чынам кароль наўмысна ці не, але пасеяў варажосць паміж сваімі ж братамі. Для Свідрыгайлы гэта ўсё ж было лепшае, чым цёмны і сыры склеп у якой-небудзь крэпасці. Аднак ці магло тое задаволіць амбітнага Альгердавіча?

Што і казаць, непрывабную ролю ў гэтым паходзе Вітаўта ў Віцебскую зямлю адыграў Скіргайла. Гэта ж імем Ягайлы ды Скіргайлавай асобай прыкрываў Кейстутавіч свае ўзурпатарскія імкненні. Але ці задарма?

**Мікола Гайдук**




(Працяг са стар. 1)

Мар'ян Пецюкевіч. Яшчэ даваенны віленскі этнограф, былы працаўнік Віленскага беларускага музея, ён добра ведаў матэрыяльную культуру беларуска-польскага пагранічча не толькі як спецыяліст, але і з аўтопсіі — ён паходзіў з беларускай вёскі. Заслугай былога дырэктара з'яўляецца і тое, што па сённяшні дзень у бібліятэчных зборах Торуньскага музея шмат можна знайсці беларускіх выданняў, у тым ліку і БГКТ.

Сёння Торуньскі этнаграфічны музей — гэта вялікі комплекс будынкаў разам з этнаграфічным паркам у самым цэнтры Торуня. Па колькасці этнаграфічных аб'ектаў займае ён трэцяе месца ў Польшчы (за кракаўскім і варшаўскім музеямі). Супрацоўнікі музея, па-за карпатлівай працай па збору, ахове і кансервацыі экспанатаў, вядуць шырокую асветна-прапагандысцкую работу з грамадствам. Рэгулярныя заняткі са школьнай моладдзю і нават з дашкольнікамі, сустрэчы з народнымі паэтамі, мастакамі. Музей вядзе таксама вялікую выдавецкую дзейнасць. У большасці — гэта манаграфічныя апісанні народнай творчасці — ганчарства, рукадзелля, будаўніцтва, рыбалоўства, звычаяў і фальклору, лекавання і іншых.



*Сакольскія дываны ў Торуньскім этнаграфічным музеі.*

Адной з форм такой працы былі і нашы „Сустрэчы з фальклорам“ у Торуні.

### КАНЦЭРТ

Беларускі фальклор у выкананні гарадоцкага калектыву трапіў на торуньскую сцэну ў момант, калі аддадзена была ў карыстанне новая глядзельная зала. Ёсць там, праўда, цудоўны амфітэатр, але выкарыстоўваецца ён, галоўным чынам, летам. Гарадоцкі калектыў быў другім, які выступіў ужо на новай сцэне. Прыемная зала на 200 месц, добрая акустыка, асвятленне далі калектыву магчымасць паказаць сябе ў поўнай красе.

На канцэрт у музеі былі запрошаны члены Торуньскага этнаграфічнага таварыства, Торуньскага таварыства культуры, прадстаўнікі мясцовых улад, нават прадаваліся ўступныя білеты.

Нашых самадзейнікаў моцна турбавала пытанне: ці зразумеюць гледачы беларускую мову, на якой ставілася ўся сцэнка, не гаворачы ўжо і пра песні? Як дакладней давесці да новага гледача нашыя звычаі, як лепш паказаць нашу культуру, нашы песні і музыку? Хваляваліся моцна.

І вось выйшлі на сцэну. Ужо першыя беларускія словы выклікалі жывую рэакцыю гледачоў. Нараканні жанчын перад вясельнай хатай на сваіх мужоў — і такіх, і сякіх, выхвалянкі, чый муж горшы, а чый лепшы, выклікаў галасны смех у зале, часам раздаваліся апладысменты. А калі жанчыны заспявалі вясельныя песні, калі складалі народнымі прымаўкамі маладым пажаданні, зала ўжо была актыўным удзельнікам беларускага вяселля. А пад канец пастаноўкі гледачы нават частаваліся вясельнымі пірагамі (Ніна Цыванюк аббегла залу з поўным вялізным рэшатам гарадоцкага вьшеку), а Марыся Міруць, салістка калектыву, частавала нават „салоджанай гарэлкай“.

Пасля сцэнкі спявалі сола і ў дуэце Юрка Налівайка і Сцяпан Копа, а потым паявіўся на сцэне ў поўнай красе беларускага народнага адзення ўвесь гарадоцкі калектыў. Ужо адно толькі яго паяўленне на сцэне выклікала ў зале бурныя апладысменты. Гадзінны канцэрт беларускіх песень торуньская публіка не толькі вытрымала, але прыняла з вялікім энтузіязмам, дамагалася бісавання. Нямала было ў зале старэйшых жанчын, якія голасна падспеўвалі калектыву. Адчувалася, што многія песні ім знаёмыя, можа нават з дзяцінства. І гэта пацвердзілася пасля канцэрта.

Як толькі сціхлі апошнія




## ЗМАГАННЕ ЗА ВІЦЕБСК

Калі сёння хоць мімаходам зірнуць на тое, што дзеялася шэсць стагоддзяў таму назад на беларускіх землях, дык перш за ўсё ўражвае незвычайная адасобленасць, міжусобная адчужанасць ды проста дзіцячая бездапаможнасць шматлікага княжацкага роду Альгердавічаў у адносінах да знішчальнага наступу на іх Вітаўта. З якойсьці прасцяцкай, нявольнічай паслухмянасцю падпарадкоўваецца Вітаўтавым пажаданням кароль Ягайла, цалкам здаецца на ласку Кейстутавіча мужны Скіргайла, трапляе ў ягоную няволю ганарлівы Карыбут. І самае дзіўнае, што ніхто з іх нават пальцам не зварухнуў, каб аб'яднацца ды хаця б спрабаваць даць супольны адпор захопніку. Болей таго: Вітаўт патрапіў пазбывацца Альгердавічаў рукамі саміх Альгердавічаў. Скарыць Скіргайлу дапамагаў яму сам кароль Ягайла, а здабываў ён Северскае княства ды адпраўляў у падзямеллі віленскага замка закаванага ў ланцуті Карыбута з сям'ёю таксама з ведама каралеўскага. Ніхто з Альгердавічаў нават і не падумаў дапамагчы гэтай чарговай ахвяры Вітаўтавага узурпатарства войскам ці хоць якім-небудзь іншым спосабам. Усе з дзіўнай абыякавасцю назіралі за расправай Кейстутавіча над іхнімі роднымі братамі і, як цяляты ў бойні, пакорліва чакалі свае пагібельнай хвіліны. І ў гэтым якраз наймацней праявіліся незвычайныя здольнасці Вітаўта.

Гэты маразм старэйшых братоў ды трагічны лёс князя северскага Карыбута канчаткова адпіхнуў ад іх наймалодшага Альгердавіча, князя крэўскага і віцебскага Льва-Свідрыгайлу, і ён з самымі блізкімі яму рыцарамі накіраваўся да крыжакоў. Тыя з выкарыстаннем такой прыхільнай для іх нагоды не марудзілі, бо, мабыць, Альгердавіч, ідучы за прыкладам свайго старэйшага стрыечнага брата Вітаўта, у Мальбарку не скупіўся на абяцанні, ахвотна падпісваў усялякія абавязацельствы. Таму, калі верыць запісу ў „Хроніцы літоўскай і жамойцкай“, неўзабаве „Свідрыгайла з прускімі немцамі і з французамі пайшоў на Літву (г.зн. Вялікае княства Літоўскае — М.Г.) ракою Нёманам і сушай, усюды валасці агнём і мячом ваюючы. Некалькі крэпасцяў у Жмудзі і Літве здабыў. Потым падышоў пад Вільню і здабываў яе два месяцы, беспярэпынна штурмуючы ды абстрэльваючы абодва замкі, а калі не змог — прэч адступіў“. Вядома, Вітаўт не астаўся ў даўгу і адудзячыўся паходам у крыжацкія уладанні. Словам, паўтарылася ўсё тое, што было яшчэ нядаўна, толькі Вітаўт са знішчальніка свае радзімы раптам перамяніўся ў яе абаронцу ад крыжакоў ды іх саюзнікаў. Ён чакаў нагоды, каб абясшкодзіць свайго маладзенькага канкурэнта да вялікакняскага каўпака. І такая спрыяльная акалічнасць неўзабаве надарылася.

У канцы 1392 г. памерла вялікая княгіня Ульяна. Апошнія гады жыцця не паскупілі ёй расчараванняў і трывог. Яна ж усё жыццё слушна бачыла ў Кейстуце і яго нашчадках найбольшую пагрозу намыснасці яе дзяцей, Альгердавічаў. Пакуль яна мела сілу, старалася ўсведамляць і перасцерагаць сваіх сыноў, і тыя, як відаць, крыху ўлічвалі словы маці. Аднак разам з тым, як яны аддаляліся ад яе, прытуплялася іхняя насцярожанасць і пачаў браць верх Вітаўт Кейстутавіч. Мабыць, якраз паніжэнне Скіргайлы ды зняволенне Карыбута моцна ўстрывожыла вялікую княгіню, і за яе парадай Свідрыгайла пачаў шукаць апоры ў Ордэне. Прыкрая звестка пра няўдалы паход найменшага сына заспела яе ўжо на смяротнай пасцелі і паскорыла скон. Нарадзіла і выгадавала вялікая княгіня сем сыноў і пяць дачок, але закрылі ёй вочы чужыя людзі...

Не без уздзеяння Вітаўта кароль Ягайла пасля смерці маці на колішні Альгердаў, а затым і ягоны ўдзел, княствы Крэўскае і Віцебскае, паставіў намеснікам свайго лоўчага Фёдара Вясну. Вядома, што на вестку пра гэта Свідрыгайла адразу адчуў сябе цалкам пазбаўленым бацькаўшчыны, бяздомным князем-ізгоем. Доўга не чакаючы, маладзенькі Альгердавіч энергічна ўзяўся за падрыхтоўку паходу ў Віцебскую зямлю, каб адбіць яе для сябе. Арганізатарам ён аказаўся ўдалым: не толькі патрапіў забяспечыць моцную падтрымку з боку крыжакоў, але і „баяр рускіх, таксама казакаў многа збунтаваўшы“, залучыў пад свае харугвы, як падае „Хроніка літоўская і жамойцкая“. З гэтага вынікае, што Свідрыгайла карыстаўся папулярнасцю ў насельніцтва паўночна-ўсходніх беларускіх зямель: да яго далучалася беларускае праваслаўнае рыцарства і вольны люд. Тыя „казакі“, пра якіх гаворыцца ў „Хроніцы“, — гэта якраз незалежныя ад баяраў і князёў сяляне, уцекачы-нявольнікі ды іншы непадуладны народ. Яны трымаліся „нічыйнай“ зямлі на розных памежжах, між іншым, на рубяжах Вялікага княства Літоўскага з Ордэнам і Маскоўскім княствам. Шмат іх было і на тэрыторыі цяперашняй Беласточчыны, асабліва над ракою

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Васіль Хомчанка

## ДОСЛЕДНЫ ГАРБУЗ

На агародзе сарвалі гарбуз, зварылі кашу. Каша выйшла смачная, але несалодкая, і давялося сыпаць у яе цукар.

Юля сказала:

— Вось каб гарбузы былі такія, як кавуны, то і цукру не трэба было б падсыпаць.

Яе брат пяцікласнік Віця задумаўся: а чаму б не вывесці новы гатунак гарбузоў — салодкіх? Вывелі ж вунь бульбу, багатую на крухмал, агуркі даўжынёй паўметра. А пра салодкія гарбузы ніхто не падумаў. А гэта ж, відаць, не так і цяжка зрабіць: скрыжаваць кавун з гарбузом, і выйдзе нешта сярэдняе — салодкае, як кавун, і вялікае, як гарбуз.

Віця сказаў пра гэта бацьку.

— Малайчына, — пахваліў той сына, — часам і ў тваю галаву прыходзяць цікавыя думкі. Паспрабуй. Толькі ведай, што выніку чакаць прыйдзецца доўга. Вучоныя дзесяткі гадоў працуюць над адным гатункам.

Гэта Віцю не задавальняла, і ён пачаў шукаць больш лёгкі спосаб. Узяўся за кнігі. З іх Віця даведаўся, што ўсе расліны паглынаюць вільгаць не толькі каранямі, але і лісцямі, нават сцяблом. Віця падумаў: а што, калі апырскваць гарбузнік цукровым растворам? Ці не стане ад гэтага гарбуз салодкі?

Падзяліўся сваімі думкамі з Юляй. Яна параіла:

— Трэба гарбузнік надрэзаць і апусціць надрэзаны канец у раствор. Раствор і ўсмокчацца.

Ну і галава ў Юлі, дадумалася ж!

Яны так і зрабілі. Налілі ў міску вады, насыпалі цукру і апусцілі ў раствор гарбузнік з невялікім надрэзам. Няхай цяпер смокча ваду з цукрам, няхай наліваецца салодкім сокам.

Міску з растворам паставілі вечарам. А ранкам прыйшлі паглядзець і ўбачылі, што міска пустая, нават сухая. Вось дык гарбуз, за ноч усё ўсмактаў!

Некалькі вечароў Юля і Віця налівалі ў міску салодкую ваду. І кожны ранак яна была пустая.



Пра свой дослед яны нікому не гаварылі, нават бацька нічога не ведаў. Хацелі паднесці яму салодкі гарбуз як нечаканы падарунак. Вось здзівіцца!

Прайшоў тыдзень. Гарбуз падрос, пачаў жаўцець — прыкмета, што ён ужо спелы. Дзеці вырашылі назаўтра сарваць яго. Апошні раз налілі ў міску цукровага раствору ды яшчэ і лісце ім апырскалі.

Віця пайшоў у хату глядзець тэлевізар, а Юля засталася на агародзе.

Раптам сястра ўбегла ў хату, схапіла Віцю за руку і пацягнула за сабой. Выгляд у яе быў такі, быццам яна ўбачыла кракадзіла ці марсіяніна.

— Міска пустая! — падвёўшы брата да доследнага гарбуза, сказала яна.

Сапраўды, у місцы не было ні кроплі вады. Вось дзівосы! Няўжо за некалькі хвілін гарбуз змог выпіць усю міску? Што ён — насос? Віця агледзеў гарбузік, паляпаў па гарбузу. Ён быў цвёрды як камень і адгукнуўся звонкім гулам.

— Выпіў! — сказаў Віця, але няўпэўнена.

Юля не згадзілася:

— Не можа гэтага быць! Давай яшчэ нальём і паназіраем.

Так і зрабілі. Налілі раствору, селі і пачалі чакаць. Сядзелі пяць хвілін, дзесяць. А вады ў місцы не меншала.

— Ну? — сказала Юля. — Цяпер паверыў, што гарбуз не можа паглынуць раствор так хутка?

— Ён ужо сыты, вунь колькі выпіў, — не здаваўся Віця. — Гарбуз як чалавек: хоча — п'е, не хоча — не п'е.

Пасядзелі яшчэ хвілін дваццаць і задумаліся: калі раствор выпіў не гарбуз: то хто ж? Можа, і раней нехта іншы выпіваў?

Яны сабраліся ўжо ісці дамоў. І ў гэты момант праз шчыліну ў плоце ўлез суседскі Жучка і кінуўся да міскі! На дзяцей гаўкнуў: ці то адганяў ад міскі, ці то дзякаваў за салодкую ваду, якую ставілі яму кожны вечар.

— Эх ты, Жучка, — сказала засмучаная Юля. — Сапсаваў наш дослед...

Яны сарвалі гарбуз, Юля вы-

(Працяг на стар. 10)



Дыскатэка ў гмінным доме культуры ў Дубічах-Царкоўных. Фота Л. Пільскага

Станіслаў Шушкевіч

### ВЕРАБ'Я НАЗВАЛІ ЦІЎ

Танцавалі матылі
Па-над светлаю крыніцай.
Усе шчаслівымі былі,
Бачылі сябе ў вадзіцы.

У вадзіцы, нібы ў люстры,
Відаць хмаркі, відаць сонца,
З матылямі камар шустры
Быў шчаслівым тут бясконца.

Матылі, малы камар,
Могуць узляцець да хмар,
Ды нашто ім тое неба,
Усё тут добра, так як трэба.

Тут пpасторна, светла, ціха,
Спіць ад ранку ў лесе вецер.
На якое ж далеч ліха!
Дзе ж такое месца ў свеце?

А маленькі верабей,
Скок, на водмель ён усеўся.
Ножкаю пясок грабе.
Светлы колер куды дзеўся?

Вераб'я назвалі Ціў,
Ён вадзіцу замуціў.
Сам не змог цяпер напіцца,
Стала мутнаю вадзіца.

Авяр'ян Дзеружынскі

### ДЗВЕ СЯБРОЎКІ

Дзве сяброўкі,
Як сарокі,
Тараторaць
Цэлы дзень.
І за тою
Балбатнёю
Марна час
У іх ідзе.

Траскатаць
Сарокам можна —
Бо зрабілі ўжо
Дамок.
А дзяўчынкі-балбатліўкі
Не рыхтуюць
Хатні ўрок.

Дзве сяброўкі-тараторкі
Не суцішацца ніяк.
Толькі двойкі,
Толькі тройкі, —
Лепшых ім
Няма адзнак.

Віктар Гаўдзей

### ПАЛКАН

Калі чужы
Пакажацца ля плоту,
Палкан забрэша
На яго ў ахвоту.

Шкадуе верабей:
— З якой нагоды
На ланцугу сядзіць
Палкан заўсёды?

Кот адказаў,
Зірнуўшы на падстрэшак:
— Таму што ён
Не мяўкае, а брэша.

Нэлі Тулупава

### НОЖКІ

Кую, кую, ножку,
Паеду ў дарожку.
Трэба коніка каваць —
У дарожцы начаваць.
На галінках — птушкі,
Жвавыя пяюшкі.
Зорачкі — на кветках,
У калысках — дзеткі.

